

# Наша слова

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 18 (605)** **21 ТРАЎНЯ 2003 г.**

## Статус беларускай мовы і нацыянальнай сімволікі будуць абавязкова аднаўленыя

### Заява Сойму Партыі БНФ

Восем гадоў таму рэжым А.Лукашэнкі распачаў сістэмнае знішчэнне беларускай нацыянальнай культуры, мовы, гістарычнае памяці. 14 траўня 1995 года адбыўся незак нны і сфальсіфікаваны рэферэндум, на падставе якога быў знішчаны статус беларускай мовы, як адзінай дзяржаўнай, а нашыя дзяржаўныя сімвалы і гістарычныя святыні – бел-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня – былі замененыя на савецкія эрзацы. Менавіта гэтым рэферэндумам пачаўся наступ на свабоду і дэмакратыю, на еўрапейскі выбар Беларусі.

Аднак нікому не дадзена адвярнуць назад ходу гісторыі. І праз восем гадоў беларусы шануюць сваю мову і змагаюцца за яе паўнавартасны дзяржаўны статус. І цяпер людзі з пачуццём уласнай годнасці бясстрашна ўздымаюць бел-чырвона-белыя сцягі. Сойм Партыі БНФ выказвае павагу мужнасці Змітра Дашкевіча, сябра Партыі БНФ, і Алеся Тарасевіча, якія нагадалі пра ганебную гадавіну акцыяй узняцця сцягоў у самым цэнтры Менска, за што пацярпелі ад рэжыму.

Сойм выказвае ўпэўненасць, што і статус беларускай мовы, як адзінай дзяржаўнай, і дзяржаўны статус нашай гістарычнай сімволікі будуць адноўленыя адразу пасля падзення дыктатуры ў краіне. Арганізатары ж і выканаўцы палітычных рэпрэсіяў панясуць законную кару.

## Віншуем сяброў, што нарадзіліся ў траўні

Вольгу Азарку
Валянціна Арлова
Юрыя Бабіча
Анатоля Бароўскага
Уладзіміра Бордака
Юрася Бушлякова
Уладзіміра Вераб'ёва
Аляксандра Грудзіну
Зміцера Грумо
Таццяну Жураўлёву
Настасю Карцель
Аляксандра Катлярова
Маю Кляшторную
Сяржука Кручкова
Алену Куратнік
Наталлю Лебедзеву
Яўгенія Міцкевіча
Таццяну Навасельскую
Уладзіміра Натынчыка
Сяргея Панізьніка
Дзяніса Пашкевіча
Алеся Петрашкевіча
Віктара Праўдзіна
Марыю Сафро
Генадзя Хоміча
Леаніда Цітова
Наталлю Чухліб
Георгія Шарова
Кірылу Шыка

## АДПАЧЫНАК ЗА ЗНАЁМСТВА

У ТБМ імя Ф. Скарыны ў г. Менску адбылося ўзнагароджванне пераможцаў конкурсу "Як мы пазнаёміліся; што праводзіўся ў рамках месячніка "Любім і кахаем па-беларуску".

Праводзілі яго старшыня ТБМ Алег Трусаў і намеснік старшыні Людміла Дзіцэвіч.

Спадарыня Людміла распавяла пра ўмовы конкурсу, пра яго правядзенне. Аповядаў атрымалі няшмат, бо знаёмства павінны было адбывацца па-беларуску і да 17-га лютага.

Людміла Мікалаеўна адзначыла, што ў нашай краіне людзі гавораць выступаюць на канферэнцыях, занятках, пішуць вершы па-беларуску, а кахаюць, чамусці па-руску - у гэтым праблема нашага грамадства. Так і пад час конкурсу: ліст атрымалі, па ўмовах падыходзіць, напісаны добра, а сталі вывяраць - знаёмства адбылося на рускай мове. І так у многіх лістах.

Рэкламныя лісткі былі развешаны ў многіх навучальных установах, надрукаваны ў газетах, трапілі амаль ва ўсе куточкі Беларусі. Пагэтаму аповяды былі дасланы з самых розных месцаў: Клімавічы, Маладэчна, Вілейка і інш. Напісаны яны былі ў самых розных формах Напрыклад Ірына Рабушка з г. Маладэчна расказала пра знаёмства ў вершаванай форме. Знаёміліся людзі ўсюды і ў Крыме, на развалінах замка, у вёсцы.

Але ўсё ж такі пераможцамі конкурсу сталі Яніна Мельнікава і Максім Маслаў са Слоніма. Яны расказалі пра сваё знаёмства ў гістарычным мінулым пачынаючы з 16 ст. яно пра цягнецца і цяпер.

Алег Анатольевіч выступіў і расказаў пра тое, чым займаецца Таварыства дзеля таго, каб мова засталася жывою. Напрыклад на лацінскай мове ў каханні ўжо ніхто не прызнаецца. І ў нас таксама шмат гадоў усё рабілася, каб беларуская мова стала мёртваю. У школе яе вывучаюць, але паміж сабою людзі размаўляюць па-іншаму.

Конкурс паказаў, што пісаць па-беларуску можа шмат людзей, а гаварыць у паўсядзённым жыцці - не кожны. Еўрапейцы ведаюць шмат іншых моў, але дома размаўляюць на сваёй мове.

Затым Алег Анатольевіч уручыў пераможцам ваўчар на адпачынак, на Нарачы зроблены па-беларуску. Яшчэ падараваў ім кніжкі, газеты, каляндарыкі.



Наступнымі выступілі самі пераможцы. Яніна і Максім. Яны расказалі, што абвестку ў Слонімскай газеце ўбачыла Яніна. Яна і была ініцыятарам, хаця не спадзявалася, што з таго, што яны напішуць, нешта атрымаецца. Яніна вучыцца на факультэце журналістыкі ў БДУ, а Максім на гістарычным факультэце Педагагічнага універсітэта. Пазнаёміліся яны, фактычна, на ўроку беларускай мовы, дзе яна адказвала, а Максім зайшоў расказаць вершы. Так адбылося і працягваецца сапраўднае беларускае знаёмства.

*Ірына Секержыцкая.*

## Конкурс ТБМ "Як мы пазнаёміліся" завершаны

Падведзеныя вынікі конкурсу "Як мы пазнаёміліся" на найлепшы аповяд гісторыі знаёмства двух маладых людзей.

У конкурсе ўдзельнічалі маладыя пары з розных куткоў Беларусі.

Першае месца занялі **Яніна Мельнікава і Максім Маслаў** з г. Слонім Гарадзенскай вобл. Яны ўзнагароджаныя суперпрызам - пуцёўкай для адпачынку на курорце "Нарач". Іх аповяд пра знаёмства вы зможаце прачытаць у адным з нумароў газеты. **Ірына Рабушка і яе муж** з Маладзечна занялі 2-е месца. Далей месцы размеркаваліся наступным чынам: 3-е - **Таццяна Падліпская і Максім** з Клімавіч Магілёўскай вобл., 4-е - вучаніца 10 "Б" класа Вілейскай гімназіі **Вера Гараноўская**, 5-е - **Наталля Высоцкая і яе муж Аляксей**, г. Слонім, 6-е - **Святлана Шалуха і яе муж** з г. Вілейка.

**Журы конкурсу.**

*Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

Беларуская мова- **ТБМ** наша будучыня

### *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Кафедра беларускай і рускай мовы ГДСГА - 10000 р.
2. Удзельнікі Чарнобальскага шляху у Менску - 82360 р.+16 дол.
3. Шкірманкоў Фелікс - 5000 р., г. Слаўгарад.
4. Галай Аркадзь - 10000 р.
5. Кляшчук Сяргей - 5 у.а., г. Менск.
6. Мікола Дзямід - 5000 р.
7. Казлоўская Іна - 1200 р., г. Менск.
8. Мікола Лавіцкі - 1000 р. г. Менск.
9. Хрэноўскі Анатоль - 50 канад. дол., Канада.
10. Раіса Жук-Грышкевіч - 200 дол. на "Наша слова", 100дол. на "Новы час", Канада.
11. Сяргей Мацко - 1000 р., г. Горадня.
12. Шкірманкоў Фелікс - 5000р., г. Слаўгарад.
13. Лягушаў А. Р. - 5000 р., г. Бабруйск.
14. Уладзімір Тарашчанка -20000 р., г. Ліда.
15. Вештарт Галіна - 5000 р. г. Менск.
16. Кавальчук Леанід - 5000 р., г. Жодзіна.
17. Хадоскін-Ігнацікаў - 2000 р. г. Гомель.
18. Чайкоўскі Павел - 2000 р., в. Кунцаўшчына.
19. Саракваш Якаў - 5000 р. г. Баранавічы.
20. Сцяржанава Анжэла - 20000 р., г. Віцебск.
21. Наталля Казлоўская - 5000 р.

*Шаноўнае спадарства, сябры ТБМ! Пачалася падпіска на трэці квартал 2003 года.*

*У мінулым квартале падпіска яшчэ некалькі ўпала. Разам з тым хуткага вырашэння нашых фінансавых праблемаў чакаць не выпадае. Ізноў усе спадзяванні на падпіску. Без гэтага нам не выжыць. Ды і, калі не будзе падпісчыкаў, траціць сэнс само выданне газеты.*

*Мы просім кіраўнікоў арганізацый тых гарадоў і раёнаў, дзе падпіска знізілася прыняць адпаведныя меры для выпраўлення становішча. Мы просім паплумачыць нашым сябрам, што менавіта на грашах, атрыманых ад падпіскі, трымаецца нашая газета. У нас няма багатых спонсараў, таму лёс газеты ў руках нашых чытачоў.*

*Мы спадзяёмся на вашую падтрымку, сябры.*

Ф. СП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

На 2003 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)
Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

ПВ | месца | літар — на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 3090 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На2003 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)
Каму (прозвішча,ініцыялы)

№ 18 (605) 21 ТРАЎНЯ 2003 г. наша слова

*Алесь ЛОЗКА,*
*прэзідэнт Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання*
*"Таварыства беларускай школы"*

# ДЛЯ ЎЗАЕМАВЫГАДНАЙ ІНТЭГРАЦЫІ НЕ ПАТРАБУЕЦЦА ЗНІШЧЭННЕ МОВЫ НАРОДА

## *(Роздум аб лёсе беларускай школы і народа з лічбамі і фактамі)*

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Наступнай табліцай лепш пазнаёмімся з сітуацыяй у рэгіёнах. Адлюструем змяненні (у %) кантынгенту вучняў усіх класаў ад агульнай іх колькасці за тры апошнія гады.

| | Усяго на бел. мове | Усяго на рус. мове | | Усяго на бел. мове | Усяго на рус. мове |
|---|---|---|---|---|---|
| г. Менск | 8,4/7,3/6,4 | 91,6/92,7/93,6 | Гарадзенская | 48,3/45,9/41,9 | 51,2/53,6/57,6 |
| Берасцейская | 30,2/28,8/27,6 | 69,8/71,2/72,4 | Менская | 52,6/50,8/47,9 | 47,4/49,2/52,1 |
| Віцебская | 24,5/23,8/23 | 75,5/76,2/77 | Магілёўская | 21,6/21/20,8 | 78,4/79/79,2 |
| Гомельская | 20,3/23,8/18,9 | 79,7/80,2/81,1 | Разам | 29/27,8/26,3 | 70,9/72,1/73,6 |

Дынаміка падзення беларускай школы, якое праявілася з падзей 1994 года, асабліва яскрава нагляецца ў наступнай табліцы. Калі ж нарэшце мы спынімся?!

**Размеркаванне вучняў (% ад агульнай колькасці), якія займаліся па-беларуску)**

| | 1994\95 | 95\96 | 96\97 | 97\98 | 98\99 | 99\2000 | 00\01 | 01\02 | 02\2003 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| г. Менск | 21 | 17.7 | 15.4 | 13.4 | 11.2 | 9.5 | 8.4 | 7.3 | 6.4 |
| Берасцейская | 44 | 39.2 | 35.7 | 33.4 | 32 | 30.7 | 30.2 | 28.8 | 27.6 |
| Віцебская | 35.9 | 28.5 | 26.9 | 26.2 | 25.2 | 25.9 | 24.5 | 23.8 | 23 |
| Гомельская | 43.4 | 26.1 | 23.3 | 21.9 | 20.7 | 20.4 | 20.3 | 19.8 | 18.9 |
| Гарадзенская | 50.7 | 50.8 | 51.3 | 51.5 | 51 | 50.3 | 48.3 | 45.9 | 41.9 |
| Менская | 54.6 | 55.3 | 55.8 | 54.5 | 54.4 | 54 | 52.6 | 50.8 | 47.9 |
| Магілёўская | 34.6 | 27.5 | 23.8 | 22.6 | 22.1 | 22.9 | 21.6 | 21 | 20.8 |
| Усяго | | 32.9 | 31.6 | 30.5 | 30 | 29 | 27.8 | 26.3 | |

Звярніце ўвагу на стан Гарадзенскай і Менскай абласцей, якія ў цяжкія гады знявагі роднай мовы, калі паўсюдна рэзка нішчыліся роднамоўныя класы, наадварот павялічвалі размах іх адкрыцця амаль да 1998 года. Дзякуй вам, настаўнікі! Ніжэй сярэднебеларускага %, як і раней, цягнуцца сталічны, Гомельскі, Магілёўскі і Віцебскі рэгіёны.

Асабліва яскравую карціну стану і перспектыў нашай школы дае табліца дынамікі прыёму для навучання на роднай мове ў падрыхтоўчыя (першыя) класы. Тут ніякіх нечаканасцяў не праглядваецца, тая ж самая тэндэнцыя падзення. У апошнім слупку праз "\" мы падаём і сумiраваныя звесткі падрыхтоўчага і першага класаў.

| | 1994\95 | 95\96 | 96\97 | 97\98 | 98\99 | 99\2000 | 00\01 | 01\02 | 02\2003 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| г. Менск | 58 | 19.5 | 12.1 | 7.3 | 5.3 | 4.3 | 4.3 | 3.8 | 2.9\3.5 |
| Берасцейская | 79.5 | 37 | 30.5 | 27.3 | 24.8 | 29 | 28.8 | 28.1 | 28.2\28 |
| Віцебская | 62.3 | 28.9 | 26.2 | 25.3 | 21.4 | 26 | 25.4 | 23.7 | 23.4\23.2 |
| Гомельская | 82.8 | 26.1 | 22.6 | 22.1 | 16.6 | 20.4 | 19.4 | 19.6 | 19.3\19.1 |
| Гарадзенская | 86.9 | 61.4 | 50.8 | 44.1 | 37.2 | 37 | 34.1 | 31.7 | 27.8\29.4 |
| Менская | 91.3 | 67.8 | 61.4 | 52.9 | 45.2 | 44.1 | 42.8 | 39.5 | 38.2\38.6 |
| Магілёўская | 65.1 | 25.8 | 22.9 | 23 | 19.9 | 22.4 | 22.3 | 21.8 | 20.6\21.1 |
| Рэспублікан. | | | | | | | | 100 | |
| Усяго | | 32 | 28.7 | 33.6 | 26.2 | 25.3 | 24 | 22.8\23.2 | |

Нават са справаздачнага дакладу П. Брыгадзіна вынікае: у галіне столькі іншых праблем, што не да беларускасці. Неабходна ўдзяляць шмат увагі дзецям з псіхафізічнымі парушэннямі, дзецям-інвалідам і сіротам, колькасць якіх значна павялічваецца. Першых на ўліку – 119 тысяч, што складае 5,3 %. Праблемы ў арганізацыі выхавання, матэрыяльным забеспячэнні, рэфармаванні і інш.

Шкада і балюча, што ў перспектыўных задачах, рэформе і іншых асноўных планах міністэрства не закладзены і не пазначаны тыя, ад якіх залежыць лёс Беларусі. Калі гарыць хата, ратуюць найперш галоўнае. А ў нас галоўная тэма – дзесяцібальная сістэма.

Высновы. Тое, што беларуская школа дзевяць гадоў у стабільным падзенні – не выклікае сумнення. Тут доказна пераконвае і ўражвае любы з прыведзеных фактаў дынамікі, напрыклад, у Менску было 21 % роднамоўных вучняў, цяпер – 6.4. Узнікае пытанне, чаму ў нас не так, як у людзей. Чаму падобнага няма нідзе, ні ў адной рэспубліцы? Чаму нас не прызнаюць у цывілізаваным свеце? Чаму ў нас самыя меншыя заробкі і самая вялікая інфляцыя? І яшчэ шмат "чаму".

У выніку сцячэння шэрагу розных варункаў, у тым ліку і слабасці нацыянальна-дэмакратычнага руху ў Беларусі, тут у адрозненне ад іншых постсавецкіх рэспублік на хвалі агульных дэмакратычных пераўтварэнняў і папуліцкай рыторыкі да ўлады прыйшла не нацыянальная эліта, а маргінальная большасць, пазбаўленая гістарычнай памяці і замбіраваная савецка-камуністычнай ідэалогіяй, якая не вытрымала ў свеце адкрытай канкурэнцыі даць людзям заможнае і шчаслівае жыццё. У нацыянальна развітых прыбалтыйскіх краінах і больш шпаркімі тэмпамі пачала развівацца эканоміка, а ў Беларусі нават спыніліся дыскусіі пра залежнасць мовы ад дабрабыту. Ніякага іншадумства на падобныя тэмы. Ніякага прагрэсіўнага развіцця, жорсткая таталітарная палітыка, замарозка свядомасці людзей на ўзроўні савецкага мыслення і зманліва-тупіковай настальгіі па агульным, нібы танным, расійска-камунальным доме. Ва ўсякім выпадку, такім чынам можна пратрымацца, мусіць, даволі доўга, яскравы прыклад – бедная, але камуністычная Куба пасярод квітнеючай і заможнай Амерыкі.

Усім вядома, каб знішчыць суверэнітэт дзяржавы, неабходна падарваць яе аснову – мову, культуру, школу... Мусіць, беларуская мова – самая моцная. Як над ёй здзекаваліся гадамі, стагоддзямі, а яна дагэтуль жыве. Кожная краіна ў свеце абараняе сваю мову. Каб падарваць яе прэстыжнасць на карэннай зямлі ў Беларусі, сучасныя герастраты чыняць ёй усялякія перашкоды. Няма ніводнай ВНУ, на якой выкладаліся б усе прадметы па-беларуску. Як і ў сталінскай канстытуцыі, у нас таксама дэ-юрэ прапісаны ўсе свабоды для чалавека, у тым ліку права на набыццё ведаў на роднай мове, аднак на справе, як бывае ў таталітарных рэжымах, ажыццявіць гэта не проста, нават немагчыма.

Першая менская выпускніца Наста Лісіцына, бацькі якой у пачатку 80-х гадоў вялікімі намаганнямі і стратай здароўя дабіваліся роднамоўнага навучання, не была прынята ў БДУ, хаця было адпаведнае станоўчае рашэнне міністэрства аб залічэнні без іспытаў, а атрымала беларускамоўную адукацыю ў Віленскім універсітэце.

Для закрыцця беларускіх школ і класаў чыноўнікамі шырока выкарыстоўваўся адміністрацыйны рэсурс. Застрашваючы бацькоў пры пераводзе 3 класа ў рускамоўны у адну са сталічных школ на сход адміністрацыя выклікала нават прадстаўніка КДБ. Найбольш свядомымі і мужнымі бацькамі і іх дзецьмі перабраны розныя магчымыя варункі супраціву. Напрыклад, Аляксандр і Зміцер Іокшы, якія добра і выдатна вучыліся ў 166, затым у 48 СШ Менска, дзе закрыліся адпаведныя класы, зусім не пайшлі вучыцца ў рускамоўныя, былі выкліканы ў 1998 г. на пасяджэнне камісіі па справах непаўналетніх Фрунзенскага РАУС.

Звяртанне ў пракуратуру і суд, нягледзячы на наяўнасць адпаведнага заканадаўства, не прыносіла плёну. Бацькам пяцікласніцы гарадзенская суддзя раней вынесла вырак: "Адмовіць у аднаўленні навучання Мацко Агаты на беларускай мове... у адпаведнасці з дзеючай Канстытуцыяй РБ (рэдакцыя ад 27.11.1996 г.) перавод 5 "г" класа на рускую мову навучання не супярэчыць арт. 17, дзе ўказана, што дзяржаўнымі мовамі з'яўляюцца як беларуская, так і руская".

На тых жа пазіцыях цяпер стаяць і горкаўскія чыноўнікі ў Магілёўскай вобласці, якія не даюць магчымасці пяцікласніцы Марыі Каральковай (зноў выдатніцы), што вядзе зацяжную забастоўку, навучацца па-беларуску ў родным горадзе, нягледзячы на звяртанне бацькоў у пракуратуру са скаргай аб парушэнні канстытуцыйных правоў і адпаведнага закона аб адукацыі, падтрымкі Каральковых Міністэрствам адукацыі, шырокай грамадскасцю. Для загадчыка РАА І.У.Ворана (і тых, хто з ім) не зразумелыя простыя дэмакратычныя і педагагічныя ісціны, якія заключаюцца ў навучанні адступнікаў ад бацькоўскай Мовы і Закона, а не патуранне ім, стварэння лепшых матэрыяльных умоў за кошт пакрыўджаных, свядомых, сумленных. Шкада, што ў нас прынцып двухмоўя (як вядома, прыняты на вельмі сумнiўных юрыдычных падставах) разумеецца па прынцыпу гарадзенскай суддзі (значыць – рускае аднамоўе), уводзіцца ў прынцып дзяржаўнай палітыкі.

Антыбеларускасць дайшла да таго, што на вуліцы становіцца небяспечна гаварыць на роднай мове На гэтай падставе міліцыяй былі затрыманы Дз. Піменаў, Ю. Мароз (Віцебск), А.Вольскі, Д. Міронаў, А. Поклад, А. Пяткевіч (Менск), факты пра якіх сталі вядомы праз незалежную прэсу. А абуральны выпадак з беларускімі пісьменнікамі, што трапілі ў пастарунак пасля свайго з'езду! Добра, што хоць пазней было выказана пацярпелым прабачэнне і не прыменена цкаванне аўчаркай, як адбылося ў адным з папярэдніх прыкладаў. А колькі выпадкаў праследавання школьнікаў і студэнтаў, якія раздзяляюць патрыятычныя погляды ці з'яўляюцца сябрамі беларускамоўных дэмакратычных грамадскіх аб'яднанняў!

Няма ніводнага роднамоўнага тэле- і радыёканала, акрамя асобных перадач. Ды куды ні глянь – усюды не проста дамінуе расійскасць, а – пануе.

Краіна дайшла да беларусафобіі. Створана нецярпімасць да тых, хто размаўляе на мове карэннага насельніцтва. У некаторых працоўных калектывах гэта выліваецца проста ў анекдатычныя, дзікунскія і іншыя несуразныя сітуацыі. Інжынер-праграміст В. Палсцюк распавядае, напрыклад, пра страх свайго начальніка, які спасылаўся нават на КДБ, у простым жаданні падначаленага вырабіць візітоўку не на рускай, а беларускай мове.

Цяпер ужо не знойдзеш чыноўніка, які вольна карыстаецца "не той" дзяржаўнай моваи на працы, выступаючы на тэлебачанні і радыё. Сярод іх пануе страх! Гэта датычыць нават міністраў, іх намеснікаў, якія па сваіх функцыях найбліжэй стаяць да нацыянальнай культуры. Даклад на калегіі міністра адукацыі (самага беларускамоўнага па спецыяльнасці ў параўнанні з папярэднімі фізікамі) аб выніках працы за 2002 г. – ужо на мове суседняга народа, нават надрукаваны ў беларускамоўнай "Настаўніцкай газеце" (28 студзеня 2003), як выключэнне па-руску. Пра разгляданыя праблемы толькі два сказы: "Актуальной проблемой остается расширение возможностей для получения полноценного образования на белорусском языке, особенно в городской местности. Ослаблена разъяснительная и пропагандистская работа среди родительской общественности".

Антыбеларускую палітыку ва ўсіх сферах жыцця (гэта яскрава бачыцца ў адукацыі і культуры) неабходна расцэньваць як падрыхтоўку інкарпарацыі, здачы Беларусі суседняй дзяржаве. Папуліцкія размовы пра нейкія асобныя еўрапейскія падыходы ў інтэграцыі двух краін заблытваюць наш народ. Малая Беларусь у параўнанні з вялікім расійскім мядзведзем выглядае блыхой, з якой пазней давядзецца яму рабіць тое, што заўсёды бывае з крывасмокамі. А каб не быць такім, патрэбна мець новае, еўрапейскае мысленне, якое прывяло ўжо многія народы да больш годнага жыцця. Пакуль жа ў нас усё ідзе па плану здачы: здаюцца найбольш важныя прамысловыя аб'екты расійскаму крымінальнаму капіталу (сваіх жа багатых не вырасцілі), рыхтуецца юрыдычная дакументацыя, каторы год у гэтым кірунку замбуецца народ.

Яшчэ раз падкрэслім, для ўзаемавыгаднай інтэграцыі не патрабуецца знішчэнне мовы народа, яго школы, культуры, грашовай адзінкі, суверэнітэту краіны. У большасці сваёй людзі не ведаюць, што ім рыхтуюць палітыкі, але яны добра ведаюць, што ім патрэбна. Дастойнае жыццё, якое ім даўно абяцаюць, але яно чамусьці спазняецца. І яшчэ ў чым можна быць упэўненым. Калі будзе праведзены справядлівы рэферэндум, то наш народ ізноў пацвердзіць і на гэты раз больш актыўна і масава, чым нават у складаны і невыгодны час перапісу 1999 года сваю волю, сваё жаданне жыць у суверэннай дзяржаве Беларусі. 81,6 % у нас беларусаў і 85,6 % з іх лічаць беларускую мову роднай. Да гэтага неабходна дадаць яшчэ немалы % беларускамоўных іншых нацыянальнасцяў. Здзіўляе вялікі лік адсоткаў жыхароў, якія штодня размаўляюць па-беларуску. У гэтым заключана, мы мяркуем, больш глыбокае жаданне, чым рэальнасць. І гэта абнадзейвае: ёсць жаданне, знойдзецца і моц яго здзейсніць.





# “Жыццё і лёс”

*“Няма нічога немагчымага – Вер!*
*Не будзь задаволены малым!*
*Выкарыстоўвай сябе цалкам!”*
*Ніна Барбара.*

6 красавіка споўнілася 75 гадоў вядомаму беларускаму дзеячу, аднаму з пачынальнікаў беларускага адраджэння ў Літве, беззменнаму старшыні Таварыства Беларускай Культуры ў Вільні, сябру рады БНР, ганароваму сябру Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына” Хведру Нюньку. Хведар Якубавіч нарадзіўся ў вёсцы Алешавічы Шчучынскага павету. Праз год бацькі пераехалі ў Масты. У школу хадзіў у Шчучыне. У 1943 годзе сям’я пераехала ў Вільню. Хведару было 15 гадоў. Жыццё паступоваа наладжваяася, бацька ўладкаваўся на працу. Здзейснілася магчымасць пабачыць у касцёле Святога Міхала ксендза Адама Станкевіча. У Вільні вучыўся ў гімназіі імя І. Чарняхоўскага, у камсамол так і не ўступіў, ужо тады сфармаваліся адмоўныя погляды да камунізму. У 1948 годзе паступіў у віленскі універсітэт на лясны факульнэт, які пазней быў далучаны да літоўскай сельскагаспадарчай акадэміі ў Коўне, якую і скончыў на выдатна ў 1953 годзе. З удзячнасцю ўспамінае былых выкладчыкаў: прафесара Тадаса Іваноўскага – брата Вацлава Іваноўскага і прафесара Мастоўскіса. У 1954 годзе ажаніўся з Нінай Кацары, з якой пражыў шчасліва 46 гадоў, аб сваёй спадарожніцы жыцця заўсёды ўспамінае з удзячнасцю, выгадавалі дваіх дзяцей – сына і дачку, растуць двое ўнукаў і ўнучка, Хведар Якубавіч ведае пяць моў, гэта можна сказаць і аб дзецях. Абодва маюць вышэйшую адукацыю, закончылі віленскі універсітэт. А дачка Ніна – доктар навук, выпусціла тры кнігі, унікальны з густам аформлены зборнік вершаў, дарэчы, аформлены вядомым літоўскім фотамастаком Р. Дзіхавічусам і мастаком Бр. Грушасам, апошняя кніга на літоўсуай мове “Аўтапартрэты”, на прэзентацыю якой была запрошана ў ЗША і Галандыю. Яна не толькі піша вершы, але і сачыняе музыку, выконвае рамансы, выйшаў дыск.

25 гадоў Хведар Нюнька працаваў галоўным спецыялістам каштарысаў у праектных інстытутах, часта адначасова ў двух, зарабляў звыш тысячы рублёў, што дало магчымасць ажыццявіць 17 падарожжаў па былому Саюзу і за мяжу. З 1992 года на пенсіі, цалкам прысвяціў свой час грамадскай справе.

4 лютага 1989 года прайшоў устаноўчы сход Таварыства Беларускай Культуры ў зале музычнай школы імя Чурленіса, з дня заснавання ТБК Хв. Нюнька старшынствуе мэтанакіравана. Шмат за гэты перыяд зроблена, адбываліся лёсавызначальныя падзеі, ТБК арганізавала правяло тры з’езды, сесію БНР, выпушчаны 13 кніг, пісалася ў друку аб імпрэзах. Запомніліся: з’езд Беларускага народнага фронту, адкрыццё помнікаў Ф. Аляхновічу і І. Луцкевіу, табліцы Фр. Скарыну, было шмат гасцей з Беларусі з нацыянальнымі сімваламі здапомнілася паездка да пісьменніка П. Бітэля ў Вішнёва, праз некалькі месяцаў яго не стане, наведванне ксяндза Ул. Чарняўскага, вандроўкі ў Кушляны і Вязынку, у Беласток. А колькі адбылося сустрэч з вядомымі дзеячамі, пісьменнікамі: некалькі разоў наведаў ТБК Барыс Кіт, Івонка Сурвіла, М. Пецюкевіч, Янка Жучка, В. Быкаў, Н.Гілевіч, Ул.Содаль, С.Панізнік, В.Коўтун, Г. Бураўкін, усіх не пералічыць. У сакавіку адбылася сустрэча з Ул.Арловым, А. Пяткевічам і В. Аксак, А. Трусавым. Хведар Якубавіч часам бярэцца за, здаецца, невырашальныя справы і даводзіць іх да канца. Ён карыстаецца заслужаным аўтарытэтам ў літоўскім грамадстве, сярод беларусаў свету.

Яму шмат старонак прысвяціў Сямён Шарэцкі ў кнізе “Іх лёсы звязаны з Вільняй”, імя яго ёсць у даведніку “Хто ёсць хто сярод беларусаў свету”, у энцыклапедычным даведніку “Людзі культуры Гарадзеншчыны”, Хв. Нюнька аўтар кнігі “Мае ўспаміны”, удзельнічаў у замежных сустрэчах на высокім узроўні з кіраўніцтвам Польшчы, Украіны, Літвы, Эстоніі, Амерыкі: Узнагароджаны ўрадам Літвы і Польшчы Ён умее ладзіць з людзьмі, чалавек дзеі, слова, верны сябар.

Хв. Нюнька працягвае справу Лявона Луцкевіча, Лявона Караля, Кастуся Шышэні, усе сілы аддае справе незалежнасці Беларусі! Зерне, укінутае ў ніву, узыдзе ды закрасуе. Наперадзе шмат планаў і здзйсненняў. Поспехаў Вам у справаў і здароўя на доўгія годы.

Жыве Беларусь!

*Леакадзія Мілаш, г. Вільня.*

Дыялог. Прэзентацыя кнігі Ніны Барбары “Дзе вершы, там і проза”.

# ВІЛЕНСКІ РУПЛІВЕЦ БЕЛАРУШЧЫНЫ



Ігар Ахрамовіч

Так можна сказаць пра шчырага беларуса з Новай Вільні (Вільнюса) Ахрамовіча Ігара, які актыўна удзельнічае ва усіх справах ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага Краю, асабліва ў дзейнасці Каталіцка-Хрысціянскай секцыі ТБМ.

Нягледзячы на тое, што у Новай Вілейцы ёсць ужо два каталіцкія касцёлы (адзін з іх побач з жытлом Ахрамовічаў) але Ігар кожную нядзелю прыязджае у г. Вільню, на Зарэчча, у касцёл святога Барталамея, дзе набажэнствы на беларускай мове вядзе ксёндз а. Ян Шуткевіч, каб звяртацца ў малітве да Бога на роднай мове.

Паходзіць Ігар Ахрамовіч з набожнай беларускай сям’і якая родам са Смаргоншчыны. Бацька, а таксама яго радня яшчэ помняць ксяндза а. В. Гадлеўскага, які ў свой час у гэтых краях вёў набажэнства на роднай мове. І гэта зрабіла свой адбітак на Ахрамовічаў.

У радні Арамовічаў былі і ёсць святары, адзін з іх, а. Эдвард Ахрамовіч, працуе ксяндзом на Беларусі.

Прыходзіць у беларускі касцёл Ігар не толькі каб памаліцца, але зрабіць добрыя ўчынкі тут, фінансава дапамагчы ды прыняць удзел у тых мерапрыемствах, якія праводзіць ТБМ.

Так, даведаўшыся, што касьцёл знаходзіцца ў цяжкім фінансавым стане (зімой асабліва вялікія выдаткі трэба плаціць за ацяпленне касцёла і г. д) Ігар на гэтыя патрэбы ахвяраваў адразу 200 літаў. Тут яго падтрымаў і бацька Стась Ахрамовіч, які дадаў: “Касцёл патрэбна падтрымліваць, бо і нам Бог дапамагае..”

Нягледзячы на тое, што ў Ігара маці няма, яна памерла ўжо даволі даўно, то жывуць яны з бацькам, адзін другога паважаючы і ў згодзе. Гарэлкі зусім не п’юць, працуюць, жывуць з Богам. Апроч 2-х пакаёвай кватэры маюць дачны (садовы) домік з участкам зямлі, дзе вядуць гаспадарку: маюць некалькі калод пчолаў, трымаюць курэй, парсючка і казу... Бацька атрымоўвае пенсію (500 літаў), да гэтага часу Ігар працаваў слесарам, але цяпер трапіў пад скарачэнне ды папоўніў лік беспрацоўных. Праўда, атрымоўвае цяпер 210 літаў кожны месяц па беспрацоўі, але стараецца знайсці працу.

Здарылася так, што Ігар яшчэ ходзіць у халасцяках Ён 1965 года нараджэння. Бацька і той кажа: “Жаніся сынок..”

Ён не супраць, але патрэбна знайсці і добраю гаспадыню яму.

...Ахрамовіч Ігар прымае актыўны ўдзел ў справе ўшанавання Памяці Францішка Багушэвіча ў Свіранах, а таксама ў падрыхтоўцы і правядзенні мерапрыемстваў у “Засцянковай Хатцы” у Вашунове. Гэта чалавек дзеі, заўсёды імкнецца ўдзельнічаць ва ўсіх добрых справах адраджэння Беларушчыны. Такіх людзей няшмат, на вялікі жаль.

Хочацца падзякаваць Ігару за ўсе добрыя справы на карысьць нашай Бацькаўшчыны. Няхай Бог яму ў дапамогу і моцнага здароўя, а таксама добрай жонкі.

*Юры Гіль,*
*старшыня ТБМ*
*Віленскага Краю.*

# Фальклор - наша багацце

Беларускую скарбніцу народнага багацця, фальклорны куфэрак традыцый, што засталася нам ад продкаў, трэба ўсім захоўваць, паважаць і нашчадкам сваім перадаць.

Традыцыйныя святы, звычаі, абрады захоўваюцца і перадаюцца беларусамі з пакалення ў пакаленне. Вялікую цікавасць яны выклікаюць і ў наш час.

Нельга існаваць у духоўнай пустэчы. Нельга жыць без веры, без шанавання спадчыны, без любові да роднай зямлі: яе прыгажосці.

Колер нашай зямлі блакітна-зялёны. Паплавы і азёры, вузкія і шырокія стужкі рэк. Родная бацькоўская зямля... Твае спакойныя роўныя фарбы суцяшаюць і лечаць.

Беларусь - багацейшы песенны край, багаты самабытнымі традыцыямі, звычаямі, абрадамі, працавітымі, вясёлымі людзьмі. У кождай мясцовасці - своеасаблівасць мовы, рэгіянальная спецыфічнасць дзеяння таго ці іншага абраду і паўсюдна адзінасць любові да роднай зямлі.

Зварот да духоўнай спадчыны народа карысны і плённы ва ўсе перыяды гісторыі, але асабліва актуальны, жыццёва неабходны ў наш час зварот да жыватворных вытокаў народнай мудрасці.

Гэты феномен існавання цывілізацыі надзвычай важны ў плане захавання нацыянальнай самабытнасці, нацыянальнай свядомасці, нацыянальных культур.

Найбагацейшае свята Вялікдзень, сёлета ён прыпаў на 27 красавіка, яно славіць Уваскрэшанне Хрыстова, цікава сваім валачобніцтвам. Як птушкі пералятаді валачобнікі ад хаты да хаты, ад вёскі да вёскі віншавалі людзей з Вялікаднем:

*Валачобныя людзі добрыя,*
*Валачыліся, намачыліся,*
*Зайшлі да бабкі, пасушыліся,*
*І дала ім бабка яечка.*
*Валачобнікі развіталіся*
*Доўга з бабкай цалаваліся.*

Людзі па святочнаму апраналіся выходзілі на вуліцы каб павіншаваць адна аднаго словамі “Хрыстос уваскрос”, а ў адказ чулі “Сапраўды ўваскрос” і цалаваліся тройчы. Вялікодныя гульні: ці то ў біткі “мацакамі”- яйкамі, альбо качалі з горкі ці па спецыяльнаму жалабку з дошчачкі, чыё далей закоціцца, а то клалі пад капялюш, хто адгадае куды яйка носікам ляжыць, той і забірае. Вясёлыя карагоды, спевы чуваць паўсюль, нават птушкі ў гэты дзень спяваюць весялей, ручайкі бягуць шпарчэй, сонейка грае ўсімі колерамі вясёлкі. Усё наўкол радуецца Вялікоднаму Святу.

*На Свята, на Вялікдзень,*
*Вясна-Красна на ўвесь свет!*
*Дачакаліся святых святочкаў,*
*Вялікодничкаў*
*Першае свята- Святога Вялічка,*
*Другое свята – Святога Юр’я,*
*Трэццяе свята – Святога Міколу,*
*Вясна-красна на ўвесь Свет!*

Усе частавалі адзін аднога чырвонымі яйкамі, бабулі ўнукаў, а ўнукі бабуль, ладзілі застолле разам ўсёй сям’ёй. Хай жывуць народныя традыцыі. Дай Бог за год прычакаці ды зноў Вялікдзень сустракаці!” Хай жа і вам людзі будзе добра!

*Мікола Котаў,*
*навуковы супрацоўнік НДЛ*
*беларускага фальклору БДУ.*



Мікола Котаў перад выхадам на сцэну.

# СВЯТЫ КРЫЖ

29-га сакавіка ў падвіленскіх Свіранах на радзіме Францішкі Багушэвіча намаганнем руплівцаў Таварыства беларускай мовы Віленскага краю ў гонар дня народзінаў аўтара "Дудкі Беларускай" быў усталяваны і асвечаны Святы Крыж. Гэта ўжо чацвёртая ў Свіранах памятка на гонар нашага Прарока Мацея Бужэзіц адпаведныя нацыянальныя сцэнічныя строі?!

Можа б свіранскім дзецям іх ахвяравала беларуская ўлада?!

Таварыства беларускай мовы мяркуе што свіранскія дзеці, дзеці з іншых акалічных мясцінаў маглі б апекавацца ўсталяваным у Свіранах Святым Крыжам, пасадзіць вясною вакол яго

Задумваюцца пра гэта і сталыя людзі. Прыкладам, Наташына мама апошнім разам на асвячэнні крыжа гэтак і казала: "Адны нам кажуць: мы – абеларушаныя літоўцы. Палякі да сябе цягнуць. Але ж Летува тут ніколі не была. Было Вялікае княства Літоўскае. Але ж гэта не адно і тое. Беларусы мы, і мова наша




**29.03.2003 г. Юрась Гіль вітае свіранскіх дзяцей ля памятнай дошкі ў гонар народзінаў аўтара "Дудкі беларускай" у Свіранах. На сцяне агнявыя Багушэвічавы словы лацінкаю "Nie pakidajce z movy naszaj bielaruskaj kab nie umiorli!"**

рачка. Паводле слоў старшыні Таварыства Юрася Гіля, Святы Крыж вельмі натуральна ўпісваецца ў свіранскае наваколле. Ён атрымаў назоў Крыжа Пакуты.

*Крыж пакуты ў Свіранах,*
*Свіранскі родны кут,*
*Крыж цяжкі сёння*
*мы ўзнялі тут.*
*Каму? Усяму свету гавару:*
*"За Беларусь, свабоду*
*і Літву,*
*Майму паэту-змагару!"*

На асвячэнне Святога Крыжа прыйшлі тутэйшыя дзеці. А як жа без іх! Дзеля іх, іхняй будучыні ўсё гэта і ладзіцца. От як прывітаў свіранскую дзятву дваццаць дзевятага сакавіка ля Багушэвічавай мемарыяльнай памяткі ў Свіранах старшыня Таварыства Юрась Гіль:

***Хлапцы і дзяўчаткі!***
***Сягоння вы тут.***
***Заўсёды любіце***
***Свіранскі свой кут.***
***Тут родная мова гучыць***
***Сярод нас.***
***А з Богам размова –***
***Гэта малітва за вас.***
***Любіце Айчыну,***
***любіце зямлю,***
***Як тую дзяўчыну.***
***І рыхтуйце раллю,***
***Не засявайце***
***пшаніцай, жытцом,***
***Усіх спамінайце***
***добрым слаўцом.***

Юрась Гіль марыць, каб пры тутэйшым Доме культуры зладзіць з дзецьмі літаратурна-мастацкі гурт "Свіранскія Жаваранкі". От толькі галава баліць: дзе дрэўцы, кветкі. Балазе, у суседніх з Свіранамі Кулях жыве навучэнка дзесятага класа віленскай беларускай школы імя Францішка Скарыны, Наташа Шылька. Яна, між іншым, кожнага дня ездзіць на заняткі ў Вільню. Падымаецца раніцай а шостай гадзіне. Затым пяць пешых кіламетраў да рэйсавага аўтобуса. І гэтак кожнага дня. І іншай школы Наташа не жадае! От гэта дык навучэнка! От гэта дык беларуска!

Свіранскія дзеці, дзеці акалічных мясцінаў праз ушанаванне Багушэвічавага імя на яго радзіме ведаюць запаветны песняроў кліч: "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!" Гэтую песнярову засцярогу свіранскім дзецям пішуць лацінкаю – так, як пісаў іхні паэт-зямляк, як ім самім даводзіцца найбольш у сваім краі спатыкаць з пісьмом лацінкаю – праз літоўскую ды польскую мовы.

Імпрэза на радзіме Францішка Багушэвіча мела назоў "Фальварак Свіраны – паэтава калыска". І гэты назоў адпавядаў духу паэтычнага свята ў Свіранах. Усе свіранскія дзеці атрымалі ад імя Таварыства беларускай мовы кніжачкі на нашай роднай мове: зборнічкі казак, вершаў. Гэтая праца Таварыства не марная. Яна змушае тутэйшых дзетак праз Багушэвічавы святы задумвацца: хто яны, дзе жывуць, якому народу належаць?

беларуская. Ёсць моўныя ўплывы. Але толькі ўплывы..."

Асвяціў Святы Крыж ўніяцкі святар з Вільні Ян Даўкшыс. Рукойноскі ксёндз Ян Мацкевіч, у парафію якога ўваходзяць Свіраны, адмовіўся гэта зрабіць, спасылаючыся, што яму патрэбны на асвячэнне крыжа дазвол цывільнай улады. Гэты факт пра шмат што гаворыць, як і той, калі летась знікла была з месца ўсталявання асвечаная памятная дошка ў гонар народзінаў нашага Прарока на гэтай зямлі. Пэўны гурт фанатычных пальшчызнай людзей проста выганяе Францішка Багушэвіча з ягонай радзімы...

...Некалі ў Свіранах віравала духовае жыццё. На ўсіх растанных дарогах стаялі крыжы-абярэгі. Але мінулае стагоддзе зруйнавала ў Свіранах усё што толькі нагадвала пра Хрыста і ягоныя сімвалы. І от з руплівасці віленскіх беларусаў нарэшце ў Свіранах паўстаў Святы Крыж новага часу.

А наперадзе ўшанаванне Багушэвічавага імя ў Рукойнах і Вільні. На ўзбочыне гэтага высакароднага парывання Таварыства беларускай мовы Віленскага краю не павінен застацца ніхто: ні на Літве, ні на Беларусі. То паспрыяйма віленскім самахвярнікам, хто як можа, хто чым можа.

*Уладзімір Содаль.*

# Памяці Янкі Жамойціна

**Янка Жамойцін** нарадзіўся 28 студзеня 1922 г. у вёсцы Клімавічы Лідскага раёна. Празаік, літаратурны крытык, публіцыст, грамадскі дзеяч. У 1929-1936 гг. вучыўся ў польскай школе ў Скрыбаве і Шчучыне, у 1936 -1939гг. – у польскай гімназіі ў Варшаве, а ў 1939-1941 гг. – у савецкай дзесяцігодцы ў Лідзе. Закончыў у Жэшуве прафесіянальны інстытут права і адміністрацыі (1949) і атрымаў дыплом магістра адміністрацыі Варшаўскага універсітэта (1970). Жыў і працаваў у Варшаве.

У 1943 г. кіраўніцтвам Беларускай незалежніцкай партыі быў накіраваны ў Саюз Беларускай Моладзі дзеля пашырэння ідэі незалежнасці сярод моладзі. У лістападзе 1945 г. арыштаваны ў Польшчы органамі МДБ. Вызвалены палякамі. У снежні 1949 арыштаваны паўторна і асуджаны ў Менску на 25 гадоў. Вызвалены з ГУЛАГу ў 1956 г., у Варшаву вярнуўся ў 1957 г.

Дэбютаваў на старонках "Нівы" як літаратурны крытык у 1965 г. Апублікаваў у мемуарным зборніку "Лёс аднаго пакалення" (Беласток, 1996) біяграфічную аповесць "З перажытага".



25 красавіка 2003 г. памёр на мяжы Польшчы і Беларусі ў самаходзе, едучы ў Ліду.

# "Пан Тадэвуш" па-беларуску

*Шаноўнае спадарства!*

Паведамляем Вам, што на відэа ў канчатковай, палепшанай рэдакцыі выйшаў беларускі пераклад фільма Анджэя Вайды "Пан Тадэвуш" - экранізацыі аднайменнага твора нашага суайчынніка Адама Міцкевіча. Разам з гэтым адначасна дзейнасць інтэрнэт-старонкі "Беларускі відэаклюб". Убачыць яе можна па адрасе http://Belvidea.Cjb.Net

***Дадатковая інфармацыя пра беларускамоўную версію "Пана Тадэвуша".***

Пан Тадэвуш. (Pan Tadeusz). 2:30. Гісторыя, экранізацыя паэмы Адама Міцкевіча. Heritage Films. (1999). Рэжысёр - Анджэй Вайда. У ролях: Багуслаў Лінда, Даніэль Альбрыхскі, Гражына Шапалоўска, Анджэй Саўрын, Марэк Кондрат, Кшыштаф Кальбэргер, Міхал Жаброўскі, Аліцыя Бахледа-Цурусь.

Дзея твора адбываецца на пачатку XIX стагоддзя ў Літве, як раней называлася Беларусь.

Край, што знаходзіцца пад расейскай уладай, стаіць на парозе векапомных зменаў. Да берагоў Нёмна падыходзяць войскі Напалеона. Шляхта бачыць у ім надзею на збавенне і рыхтуе вызвольнае паўстанне.

Гэтыя падзеі, лёсавызначальныя для цэлага народа - тло, на якім разгараюцца прыватныя жарсці ў маленькай вёсцы Сапліцова - у шляхецкага рода Сапліцаў і графскага Гарэшкаў. Міжродавая звада, заснаваная на кроўнай помсце і ўзмоцненая маёмаснай спрэчкай, каханне і рэўнасць пераплятаюцца са справамі агульнымі. Усё гэта дзіўным чынам то замінае, то, наадварот, спрыяе агульным справам. Прымірэнню Гарэшкаў і Сапліцаў урэшце дапамагае каханне між іх маладымі нашчадкамі - Зосяй ды Тадэвушам.

Беларускамоўная версія фільма заснаваная на паэтычным перакладзе **Пятра Бітэля**, як найбольш прымальным з гледзішча спецыфікі арыгінальнай версіі.

Таксама, з меркаванняў адэкватнасці перакла-




ду, у пэўных месцах уводзіліся элементы паэтычных перакладаў **Браніслава Тарашкевіча** і **Язэпа Семяжона.**

Карціну агучвалі вядомыя беларускія акторы: **Святлана Тарасенка**, акторка тэатра "Вольная сцэна"; прымала ўдзел у агучцы фільма "Матрыца". **Аляксандр Ждановіч,** актор Расейкага тэатру; прымаў удзел у агучцы мультфільмаў у рамках праекту фірмы "Сотвар".

**Дзе знайсці касету?**
**МЕНСК:**

1) кіёскі на ст. м. "Кастрычніцкая "

2) кніжная выстава ў канцэртнай зале "Менск" (ст. м. "Першамайская")

3) ТБМ (Румянцава, 13 - ст. м. "Плошча Перамогі", ля унівэрсытэта; тэл. 288-23-52)

4) БНФ (Варвашэні, 8 - ст.м. "Плошча Перамогі", прып. "Чырвоная"; тэл. 284-50-12).

**ГОРАДНЯ:** пэйджар (0152) 730000 аб. 127302; 230003, Горадня-3, а/с 62; e-mail: michelson@tut.by.

**ГОМЕЛЬ:**(0232) 45-11-51, Андрэй. E-mail: bandrej@tut.by. Штонядзелю да 13:00 на пл. Паўстання.

**ПОШТАЙ:** п/с 333, 220050, Менск-50; тэл. 8 (029) 6435733; e-mail: exlibris@tut.by. (Калі дасылаеце замовы, падавайце падрабязныя і дакладныя звесткі пра сябе і, як мага больш, кантактаў (тэлефон, пэйджар, e-mail) для найхутчэйшага выканання вашых замоваў.)

**ІНТЭРНЭТ:** Michelson.By.Ru, Www.Kraj.Org, EXLIBRIS.CJB.NET

Колькасць касетаў абмежаваная.

**Даведкі:**
(017) 211-85-85 аб. 25402;
E-mail: belvidea@hotmail.com ;
220107, Менск, а/с 150.

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by
**http://tbm.org.by/ns/**

***Рэдакцыйная калегія:***
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 19. 05. 2003 г.
Наклад 2200 асобнікаў. Замова № 1334.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 458 руб., 3 мес.- 1374 руб.
***Кошт у розніцу:*** 175 руб. (у Менску - 185 руб.)